16+

ISSN 0132-5957



# Вожык

Часопіс сатыры і гумару

5 • 2018
май

Старшыня садовага таварыства

Справа №

Збіраў на агульную справу, а назбіраў на сваю.

Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

# Актуальныя карыкатуры Аляксандра Каршакевіча











**Віктар РЭЧЫЦ**

## Шчанюк у рулоне

*Байка*

На будпляцоўцы цішыня:
Спякота. Выхадныя.
Дурэюць толькі тут паўдня
Сабакі маладыя.
Найбольш ганяў шчанюк адзін
І – трэба ж! – галаву ўсадзіў
Ў лінолеумавы рулон,
А выняць не хапіла сілы,
Бо штосьці шыю абхапіла.
І дух з таго сабакі – вон.
А тут начальнік ПМК
Днём ясным нахапіўся,
Адразу на вартаўніка
Ціт Савіч наваліўся:
– Вы тут сядзіце як вахцёр, –
Сказаў сур'ёзна Стасю. –
А ля вагончыка з жыццём
Сабака развітаўся.
Стась на памерлага зірнуў,
Пілюлю моўчкі праглынуў.
Пазней прадоўжыў шэф вымову:
– Ці ж здольна наша будахова
Задачу выканаць спаўна,
Калі яна
Не бачыць, небарака,
Што побач акалеў сабака?
На гэты раз Стась не стрываў:
– А ў чым жа тут мая віна?
Калі б я нават цікаваў
За шчанюком-гарэзай,
То і тады б не ўпільнаваў –
Умее хутка бегаць.
І ці ж сцягнуў барбос рулон?
На месцы ён.
І не было б бяды, калі б
Тут будматэрыялы
Не раскідалі па зямлі,
А пад замком трымалі.
Крычы тут моцна, ні крычы –
Ахова наша ні пры чым.
Калі ёсць хібы на аб'екце,
Саміх будаўнікоў праверце.
***
Глядзець у корань нас вучыў Пруткоў.
Найперш парада – для кіраўнікоў.
Да сутнасці дайсці якісь не можа –
Агульнай справе слаба дапаможа.

*г. Івацэвічы.*




Мікола ГІРГЕЛЬ.




Пётр КОЗІЧ.







Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Міхась СТЭФАНЕНКА х 2.

## Я не пісаў...



*Гумарэска*

У класе ішоў урок рускай літаратуры. Настаўніца Вера Іванаўна тлумачыла чарговы твор Пушкіна. Калі расказала ўсю неабходную інфармацыю, яна прамовіла:

– А зараз я праверу, як вы выканалі дамашняе заданне!

Настаўніца паглядзела на вучняў, затым прабеглася вачамі па іх прозвішчах у класным журнале.

– Адказваць будзе Федзя Якавец. Скажы, калі ласка, хто аўтар рамана «Яўген Анегін»? – запытала Вера Іванаўна.

– Гэта не я. Можа, у кагосьці іншага гэта і атрымалася, але толькі не ў мяне, – прамармытаў сабе пад нос вучань.

– Складана адказаць на такое простае пытанне? – раззлавалася настаўніца. – Не вучыш ды яшчэ і на ўроках нічога не слухаеш!

Празвінеў званок. Калі Вера Іванаўна ішла ў настаўніцкую, у яе ўзнікла думка: «Трэба схадзіць да Федзіных бацькоў. Расказаць, што хлопчык стаў дрэнна вучыцца».

Праз некалькі дзён Вера Іванаўна бадзёра крочыла па вясковай вуліцы да Якаўцоў. Дома быў адзін бацька. Настаўніца павіталася, папрасіла прабачэння за нечаканы візіт.

– Нашкодзіў, мабыць, сынок? – занепакоіўся бацька.

– Для пачатку я б хацела пазнаёміцца з вамі. На класных сходах не бываеце, як сын вучыцца, не цікавіцеся. Між іншым, ваш Федзя перастаў рыхтаваць урокі. Таму займайцеся з ім больш, кантралюйце. Вось нядаўна праходзілі творчасць Пушкіна, задаю Федзі пытанне: «Хто напісаў раман Яўген Анегін?», а ў адказ чую, што гэта не ён.

Бацька паглядзеў у вочы педагогу, а затым няўпэўнена вымавіў:

– Можа, Федзя і сапраўды не пісаў? Бо ў апошні час ён неяк менш піша, больш чытае.

Настаўніца, зразумеўшы, што размовы не атрымаецца, развіталася і выйшла з хаты. Каля плота Веру Іванаўну чакала цётка Мальвіна. Павітаўшыся, тая запытала:

– Скажыце, а чаго вы прыходзілі да маіх суседзяў? Малодшы штосьці нарабіў?

– Не, проста вырашыла бліжэй пазнаёміцца з бацькамі, паглядзець, як мой вучань рыхтуе ўрокі.

– А хіба ён кепска вучыцца? – здзівілася суседка.

– У апошні час Федзька стаў няўважлівы, не цікавіцца школьнай праграмай, асабліва літаратурай. Праходзілі творчасць Пушкіна, задаю яму пытанне: «Хто напісаў раман «Яўген Анегін»? Дык хлопчык адказаў, што не пісаў нічога такога. І бацьку гэты прыклад прывяла. Дык той запэўніў мяне, што сын не мае ніякага дачынення да рамана, бо Федзька больш чытае, чым піша.

Суседка паслухала настаўніцу ды выпаліла:

– Не верце ім! Лухту яны гавораць! Людзі такія... Напішуць і не прызнаюцца!

**Максім КАЗУН,**
*Лунінецкі раён,*
*в. Вічын.*

# Сарока і Дзяцел

*Байка*

Бачыў раз уласным вокам,
Як вялі паміж сабой
Дыялог мадам Сарока
З Дзятлам ранняю вясной.

– Добры дзень, – Сарока кажа. –
Чым займаўся гэты час?
– Спраў, – зазначыў Дзяцел важна, –
Хопіць з лішкам для ўсіх нас.



Беспрацоўя я не ведаў,
Бо штодзённа шчыраваў:
Лес лячыў ад караеда,
Тлю з галінак даставаў.

Не хачу сабой хваліцца,
Але ведаюць усе:
Збудаваў дупло Сініцы,
Мухалоўка – на чарзе.

А ў цябе, напэўна, многа
Добрых вестак і навін?
Ўсе збягаюцца дарогі
Да сарочыных мясцін.



– Што сказаць, браток, на гэта?
На сябе я пагляджу –
Як і ты, зімой ды летам,
Без работы не сяджу.

Ластаўцы з птушкамітэта
Раду слушную дала:
«Чым выкурваць цыгарэту,
Лепш бы горкую піла».

Гэтак кожны дзень да поту
Кансультую і лячу.
Не бярэ мяне лянота –
Ва ўвесь голас стракачу.

...Сонца дорыць пазалоту,
Грэецца ў праменні клён.
Бачу Дзятла за работай –
Ну, а дзе ж Сарочын плён?

**Адам ГРЫНКЕВІЧ,**
*Стаўбцоўскі раён,*
*в. Вялікі Двор.*



Алег ГУЦОЛ.

## Вяселле

Картэж вясельны тры кругі зрабіў,
На плошчы ў вёсцы, перад сельсаветам.
Шафёр машыны кожнай так трубіў,
Здавалася – прыйшоў канец Сусвету.

Нявеста-краска ўстала ў поўны рост,
Цукеркамі ў натоўп дзятвы кідала...
Картэж рвануў па вуліцы наўпрост,
Мінаючы выбоіны удала.

Машыны праімчалі ўздоўж сяла.
Каб бачыць лепш, на плот малыя ўзлезлі.
Бабуля задуменна выдала:
– Яшчэ адну, вунь, посуд мыць павезлі...

**Зміцер ВОЛЬСКІ,**
*Валожынскі раён,*
*г. п. Івянец.*



Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ.

Венеролаг

Вы таксама эканомілі на бяспецы?

Хірург

Алег КАРПОВІЧ.




Мікола ГІРГЕЛЬ.



Аляксандр ШМІДТ.

## Крот-працаўнік

Нейк прыйшоў на агарод
Працаўнік заўзяты – крот.
Шчыра ўзяўся для парадку
Перакопваць нашы градкі.
У працэсе чарвякоў
Ён пералавіць гатоў.
Вынікамі ўласнай працы
Надта любіць выхваляцца.
І не разумее крот,
Чым ён раззлаваў народ
І чаму жывёлу лаюць,
Яго дзейнасць праклінаюць,
Жыць спакойна не даюць,
Бруд-атруту ў норы льюць?
Ад крыўдзіцеля-народа
Пойдзе прэч ён з агарода.
Хай капаюць без яго,
Раз не маецца мазгоў.
Зразумеюць, што капаць –
Не пад скрыпачку скакаць.

**Раіса ВАСІЛЬЕВА,**
*г. Гомель.*

**– Вам ад мужчыны за тым столікам... яго банкаўскі рахунак.**



Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ.




Алег КАРПОВІЧ.

## Перлы ад крытыка

Калі я нарэшце закончыў чытаць вашу трылогію, то горка заплакаў. Гэта ж колькі лесу загубілі, каб надрукаваць яе!

Ваш твор у найвышэйшай ступені нізкамастацкі. Выдаць яго, няхай і мізэрным тыражом, маглі толькі за вялікія грошы.

Аўтар: «Якімі вам бачацца мае вершы, паважаны крытык?»

Крытык: «Прабачце, але я іх не ўбачыў».

Не засмучайцеся. У жыцці ёсць шмат рэчаў, якія значна горшыя за вашы творы.

**Даслаў Міхась ПАЗНЯКОЎ,**
*г. Мінск.*



Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ
і Аляксандр БАГДАНОВІЧ.




**Аляксандр ЗОТАЎ**

# Залік

*Сцэнка*

*Прафесар прымае залік у групы студэнтаў. У аўдыторыі з'яўляецца першы з іх.*

**Прафесар:** Заходзьце, не саромейцеся! Вучылі?
**Першы Студэнт:** В-в-вучыў...
**Прафесар:** Уважліва слухаю.
**Першы студэнт:** Значыцца, так... Э-э-э...
**Прафесар:** Незалік! Наступны!.. Вучылі?
**Другі студэнт:** Зразумела, усё ведаю!
**Прафесар:** Усё нават я не вывучыў бы! Незалік! Наступны! *(Сабе)* Спытаем інакш... *(Студэнту)* Дзе бралі інфармацыю да падрыхтоўкі заліку?
**Трэці студэнт:** З крыніц!
**Прафесар:** Калі не сакрэт, з якіх?
**Трэці студэнт:** Пра іх увесь інстытут ведае!
**Прафесар:** Не стамляйце чаканнем, кажыце, хто што ведае?
**Трэці студэнт:** Усе! І я таксама! Дзякуючы вашым даследаванням і кнігам!
**Прафесар:** Пахвальна-пахвальна! Залік! Наступны! Што скажаце?
**Чацвёрты студэнт:** Добры дзень!
**Прафесар:** Прывітанне. А што яшчэ?
**Чацвёрты студэнт:** У залежнасці, што спытаеце.
**Прафесар:** А якое пытанне вы б хацелі пачуць?
**Чацвёрты студэнт**: Напрыклад, дзе вы былі ўчора з выкладчыцай псіхалогіі?
**Прафесар:** Вось шантажыст! Добра, залік. Наступны! Чым жадаеце падзяліцца?
**Пяты студэнт:** Калі з вамі, добрым чалавекам, то, мабыць, каньяком?
**Прафесар:** Ну, а калі я злосны?
**Пяты студэнт:** Такога не можа быць, вы памыляецеся.
**Прафесар:** Прыйдзецца згадзіцца. Залік! Наступны! Чым парадуеце?
**Шосты студэнт:** Я?
**Прафесар:** Вы. Тут акрамя нас нікога няма.
**Шосты студэнт:** Я люблю...
**Прафесар:** Што?
**Шосты студэнт:** Прадмет...
**Прафесар:** Які?
**Шосты студэнт:** Ну-у, які мы здаём!
**Прафесар:** А які здаяце?
**Шосты студэнт:** Той, што вы прымаеце!
**Прафесар:** Назву скажыце!
**Шосты студэнт:** А вы ведаеце?
**Прафесар:** Досыць! Незалік! Наступны!

*Уваходзіць студэнтка.*

**Студэнтка:** Прафесар, я прыйшла, каб прызнацца!
**Прафесар:** Што не падрыхтаваліся?
**Студэнтка:** Я кахаю!
**Прафесар:** Удакладніце!
**Студэнтка:** Вас...
**Прафесар:** Мяне? Залік! Тады пачакайце, калі ласка, на калідоры, я хутка скончу! Студэнты, хто там яшчэ застаўся?

*Уваходзіць група студэнтаў.*

**Студэнты:** Паважаны прафесар! Віншуем вас з паспяховым прыёмам заліку. Вось нашы заліковыя кніжкі, а яшчэ — запрашэнне!
**Прафесар:** Куды?
**Студэнты:** На калідор. Там чакае муж студэнткі, якой вы прызначылі спатканне пасля заліку. Ён ужо размінаецца.
**Прафесар:** Так, паважаныя, давайце хутчэй свае залікоўкі, я вельмі спяшаюся!
**Студэнты:** Прафесар, вы куды? Там жа... акно!
**Прафесар:** Нічога-нічога, тут жа ўсяго першы паверх. Залік скончаны-ы-ы-ы!

*г. Мінск.*


Пётр КОЗІЧ.










Алег ПАПОЎ х 3.

# СЕКА! МІША!

*Быль*

У нашым гвардзейскім палку быў заведзены парадак: калі нават казарма знаходзілася на адлегласці ўсяго дваццаці метраў ад сталовай, падраздзяленне павінна было ісці на прыём ежы па так званай «арбіце» (перыметр усёй палкавой тэрыторыі). Ды не проста шпацыраваць, а ісці страявым крокам. Зразумела, што гэтае патрабаванне амаль заўсёды ігнаравалася. Таму часта на фінішнай прамой перад сталовай салдаты ішлі проста гурбой. Менавіта пагэтаму ў засадзе іх пільнаваў дзяжурны па палку альбо ягоны памочнік. Калі лавіў узвод ці роту, якія ішлі абы-як, то вяртаў іх на зыходную. І хлопцам зноў прыходзілася малаціць ботамі асфальт.

Афіцэры па-рознаму ставіліся да гэтай «функцыі». Адныя ігнаравалі цалкам, другія глядзелі скрозь пальцы на парушэнне і сустракалі салдат на ганку сталовай заўвагай ды жартам. Але ж знаходзіліся і прынцыповыя правяраючыя, якія прымушалі роту ці ўзвод праходзіць «арбіту» па тры-чатыры разы. Адзін з іх быў маёр гвардыі Міхайлоўскі, па салдацкай мянушцы Міша, галоўнай асаблівасцю знешнасці якога быў вялізны жывот. Мужчына заўжды хаваўся за будынак палкавога КБА, метраў за дваццаць ад сталовай, каб злавіць парушальнікаў. Але заўжды беспаспяхова...

...Каб убачыць, хто як ідзе, трэба было высунуцца з-за вугла будынка. Але ж спачатку з-за сцяны паказвалася вялікае пуза. Таму сярод салдат імгненна гучала каманда: «Сека! Міша!» І ў момант, калі з-за вугла выглядвала галава Міхайлоўскага, чарговае падраздзяленне ўжо грукала па асфальце правільным страявым крокам...

**Сяргей ЛАПЦЁНАК,**
*г. Мінск.*



Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.

# Выпрабавальны тэрмін

*Фельетон*

Зоя Сцяпанаўна, якая ўжо больш за дваццаць гадоў працавала ў ЗАГСе, сядзела за сваім рабочым сталом і некалькі хвілін перамешвала лыжкай цукар у кубачку гарбаты.

— Чаго задумалася? — кранула яе за плячо калега Лідзія Міхайлаўна.

— Настрою няма. Надакучыла мне праца. Не бачу сэнсу ў ёй.

— Вось яно што, а то я ўжо хваляваца пачала, — сказала калега.

— Здаецца, дару людзям шчасце, вяду цырымоніі, гавару ўрачыстыя словы. Кожная пара такая вясёлая ў дзень шлюбу, смяюцца, радуюцца, лічаць, што гэта самая галоўная падзея ў іх жыцці. Маладыя прыносяць клятву ў вечным каханні, клопаце адзін пра аднаго... А потым бачыш іх зноў у нашым ЗАГСе, толькі ўжо з заявай на развод. Вось і атрымліваецца, што я проста марную свой час, а яшчэ і табе працы падкідваю, калі правяраеш, ці правільна запоўнены бланкі і неабходныя дакументы, — уздыхнуўшы, прамовіла Зоя Сцяпанаўна.

Лідзія Міхайлаўна засмяялася:

— Дурніца, я падумала ўжо, што захварэў нехта. А яна тут наконт разводаў перажывае. Сямейнае жыццё часта змяняе людзей, а зараз працэс скасавання шлюбу дастаткова просты. Вось і бягуць да нас маладыя сем'і пры першых складанасцях і сварках. Молада-зелена, як кажуць.

Лідзія Міхайлаўна памаўчала з хвіліну, потым адчыніла шуфляду і дастала аркуш паперы з нейкімі лічбамі.

— Статыстыку нядаўна знайшла. Вось паглядзі: у 2017 годзе на адну тысячу шлюбаў прыходзілася 483 разводы, у 2016 годзе — 506, у 2015 — 402, а ў 2014 годзе — 415. Ты толькі ўдумайся ў гэтыя лічбы! Канешне, ёсць даследаванні, якія сцвярджаюць іншае. Маўляў, агульная колькасць разводаў памяншаецца. Калі ў 2015–2016 гадах іх было каля 33 тысяч, то ў 2017 годзе — 32 тысячы.

— Ну, разыходзяцца людзі, што тут дзіўнага? Мы ж не ў сярэднявечны жывём, калі шлюб заключаўся на ўсё жыццё. Мяне, напрыклад, радуе тэндэнцыя павелічэння ўзросту жаніхоў і нявест. Гэта правільна, калі ў ЗАГС ідуць ужо сфарміраваныя як фізічна, так і духоўна людзі. Так, летась хлопцы ўступалі ў шлюб у сярэднім у 27,9 года, а дзяўчаты — у 25,8. Але ёсць адна акалічнасць, на якую я не ведаю, як рэагаваць: каля паловы беларусак да 24 гадоў лічаць, што замужжа — перашкода пры ўладкаванні на працу. Так гэта ці не, выкажы сваю думку.

— Глядзі, калі ёсць дзеці, то дзяўчына будзе часта сядзець на бальнічных. Калі ж малых няма яшчэ, то працадаўцы мяркуюць, што ў хуткім часе яны з'явяцца. І тады спецыялістка пойдзе ў дэкрэт. Каму хочацца шукаць новых людзей у калектыў? Тым больш, успомні, колькі зараз сямейных пар разводзяцца. Пра якую працу ў такі момант можна гаварыць? Гэта стрэс і нервы для кожнага чалавека, — канстатавала Зоя Сцяпанаўна.

— Магчыма, гэта і так, але дзеці аб'ядноўваюць сем'і. Я недзе чытала, што пары з двума ці больш дзецьмі раз-



Алег ГУЦОЛ.




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.

водзяцца ў шэсць разоў радзей, чым з адным малым, – адказала на гэта Лідзія Міхайлаўна.

На нейкі час жанчыны змоўклі, кожная з іх абдумвала пачутае і сказанае. Калі спачатку дрэнны настрой быў толькі ў Зоі Сцяпанаўны, то зараз і Лідзія Міхайлаўна сядзела сумная і заклапочаная. Але раптоўна яна спахапілася, усміхнулася і выпаліла:

– Так, хопіць тут нюні распускаць. Праца ёй задавальнення не прыносіць, лічыць, што дарэмна марнуе час! Ты толькі ўяві, колькі за дваццаць гадоў хлопцаў і дзяўчат, мужчын і жанчын сталі шчаслівымі сем'ямі з тваёй дапамогай і ўдзелам. Я ўпэўнена, што такога шчырага чалавека, які пранікнёна вёў цырымонію і прымаў клятвы маладых, абавязкова памятаюць.

– Разумею, даражэнькая, толькі ж дрэнь справа, калі столькі разводаў па краіне. Я тут да таго, як ты прыйшла, думала пра спосабы вырашэння такой праблемы, і з'явілася ў мяне адна ідэя. Зараз пры прыёме на работу нярэдка выкарыстоўваюць выпрабавальны тэрмін. У гэты час два працоўныя бакі могуць без лішняй цяганіны з дакументамі, нерваў і канфліктаў разысціся, як тыя караблі ў моры. Вось было б добра, калі б і для шлюбу такі тэрмін усталявалі. Адвялі пару гадоў на прыцірку, каб паглядзелі адзін на аднаго пад новым вуглом. Нездарма ж гавораць, што ў шлюбе людзі змяняюцца. А тут вось такая добрая падстрахоўка. Як табе прапанова?

Лідзія Міхайлаўна гучна засмяялася:

– Я дзвюма рукамі «за». Ты ж разумееш, мне чым менш паперы на стале, тым лепш. Гэта столькі часу можна было б з'эканоміць! Толькі я б унесла яшчэ адно дапаўненне. У гэты выпрабавальны перыяд яны абавязкова павінны раз у месяц наведваць псіхолага. Такія спецыялісты звычайна могуць хутка растлумачыць і вырашыць многія праблемы ў першы год жыцця. Тым больш, даць слушныя парады.




– О, цудоўная думка. Я нават напішу нашы прапановы і адпраўлю ў міністэрства. Можа, прыслухаюцца.

Размову жанчын перарваў голас з суседняга кабінета:

– Лідзія Міхайлаўна, вы дзе? Мне патрэбна ваша дапамога. Тут прыйшлі падаваць дакументы на рэгістрацыю шлюбу.

Тая адразу спахапілася:

– Усё, пабегла. Бачыш, новая пара прыйшла. Тут радавацца трэба, а не сумаваць.

З гэтымі словамі калега Зоі Сцяпанаўны пакінула пакойчык.

– І праўда! Адны жэняцца, іншыя разводзяцца. Гэта жыццё. Я лепш напішу новы тэкст для цырымоніі. Каб так кранаў за душу, што маладыя назаўсёды яго б запомнілі, – услых сказала жанчына, дастала ліст паперы, ручку і прынялася за працу.

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**



# Сатырычным гнеўным словам Перамогу набліжаў

*З дня нараджэння вядомага пісьменніка, аднаго з заснавальнікаў беларускай дзіцячай літаратуры, а таксама прыгодніцкага і навукова-пазнавальнага жанраў у ёй Янкі МАЎРА (Івана Міхайлавіча Фёдарава) сёлета спаўняецца 135 гадоў. Прызнаны майстар слова, чые творы з захапленнем чытаюцца дзецьмі і дарослымі па сёння, дэбютаваў у 1923 годзе як фельетаніст (газета «Советская Белоруссия», ленінградскі часопіс «Бегемот»).*

*Гумарыстычны талент пісьменніка пазней маглі ацаніць і чытачы «Вожыка»: у пасляваенныя гады на старонках часопіса нярэдка з'яўляліся яго апавяданні і замалёўкі, афарбаваныя добрай усмешкай. Але мала каму вядома, што пяру празаіка падпарадкоўвалася і паэтычнае слова – аднак не лірычнае, а сатырычнае, нават гнеўнае. Інакшым яно не магло быць, бо пісаліся гэтыя творы ў часы акупацыі Беларусі нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Унучка Янкі Маўра і Якуба Коласа Марыя Міхайлаўна Міцкевіч нядаўна адшукала іх у архівах, дзякуючы чаму ў нас з вамі з'явілася ўнікальная магчымасць пазнаёміцца з сатырычнай спадчынай пісьменніка. Адзначаючы майскімі днямі свята Перамогі, узгадаем, што здабывалася яна і зброяю сатыры. А Янка Маўр зрабіў у яе свой сціплы, але вельмі важны ўнёсак.*

**Янка МАЎР**

## Смерць Шмуцкера

*Байка*

*«Для сваіх раненых афіцэраў немцы гвалтоўна забіраюць апошнюю кроў савецкіх людзей, пакідаючы іх на смерць» (з апошніх паведамленняў).*

Маёру Шмуцкеру прыйшоў зусім канец:
Скалечыў яго здорава савецкі наш баец.
Бяда гразіла, каб маёр
Ад заражэння не памёр.
А як маёр заядлым быў эс-эсам
І нават сваяком быў з Гесам,
То смерць яго была б для немцаў горам,
І трэба было ратаваць жыццё маёра.
Не спяць урачы
Ні ўдзень і ні ўначы,
Усё думаюць, як гору памагчы.
– Крыві яму, крыві ўліць свежай, чыстай! –
Сказаў галоўны ўрач, мяснік плячысты.
– Але якой крыві? – спыталі дактары. –
Павінны разглядаць пытанне прынцыпова.
Не трэба забываць, што да пары
Мы тут знаходзімся ў палявых умовах.
І дзе дастаць крыві належнай, чыстай?
Ці будзе гэта толькі кроў эсэсаўца-фашыста,
Ці можна і звычайнага нямецкага нацыста?
Або арыйца з стажам стогадовым,
Дакумантамі даказаць гатовым?
Адкуль жа ўзяць крыві нам лішак,
Калі яе ў нас усяго кілішак!
Не можам чыстую арыйскую мы кроў
Псаваць крывёй мясцовых жыхароў!
– Сябры мае, – спыніў дыскусію галоўны ўрач, –
Не будзем ставіць мы сабе такіх задач.
Адно – палітыка і прапаганда ў друку,
Другая рэч – практычная навука!
А практыка гаворыць другі год,
Што на карысць нямецкіх малайцоў
Прыгодна ўсё: і неарыйскі хлеб, і неарыйскі скот,
І неарыйская таксама кроў.
Схапілі лепшую савецкую дзяўчыну
І, абяскровіўшы яе начыста,
Улілі той крыві паганаму нацысту.
Але... фашыст адразу закрычаў,
Закурчыўся, заенчыў, задрыжаў
І ў той жа міг сканаў у пакутах,
Нібы ад страшнае атруты.
І зноў

Сярод урачоў
Дыскусія пайшла,
Пакуль дазналіся, дзе тут прычына:
Kроў Шмуцкера атручана была
Нянавісцю савецкае дзяўчыны.

*Алма-Арасан, 3 красавіка 1943 г.*

## Цуд з фашыстам

Гавораць усе ад хлопчыка да дзеда,
Што гітлераўскія салдаты — людаеды,
Што не было такога выпадку ад веку,
Каб у іх прачнуліся пачуцці чалавека.
Такі агульны падыход
Лічыць павінны павярхоўным,
І, каб не быць нам галаслоўным,
Мы прыклад прывядзём наадварот
(Адбыўся ён ў мінулы год
І ў тыя дні здзівіў нямецкі ўвесь народ).
Фрыц Хамке быў салдат звычайны,
Не горшы і не лепшы з тых,
Што топчуць Беларусь з Украйнай
Або гніюць у лясах густых.
У яго курынай галаве
Маглі змясціцца думкі дзве:
Што на зямлі ён цар і бог,
І Гітлеру за гэта — гох!
Вышэйшай расай ён сябе лічыў,
Таму паскудзіў усюды, дзе ён жыў.
Дбаў толькі, каб жывот напхаць
Ды больш дабра дамоў паслаць.
Калі часамі быў загад
Людзей бязвінных пяць павесіць,
Фрыц Хамке сам быў вельмі рад
Павесіць іх адразу дзесяць.
Ну, словам быў ён не салдат,
А вельмі добры агрэгат,
Якіх фашыстаўская зграя
З такім майстэрствам вырабляе.
Аднойчы фрыц сустрэў ў завулку,
Сярод будынкаў абгарэлых,
Двух дробных дзетак без прытулку,
Галодных, голых, пасінелых.
Якога яны былі розуму і веку,
Відаць з таго,
Што нават фрыца прынялі за чалавека.
І, працягнуўшы ручкі да яго,
Сказалі: «Дзядзя, дай нам хлеба».
«Дык вось чаго вам трэба, —
Прамармытаў салдат сурова. —
Цяпер у нас парадак новы:
Хто не працуе на карысць
Нямецкае дзяржавы,
Не мае права
Не толькі есці, а і жыць.
А вы чым можаце Германіі служыць?»
І, узяўшы ў рукі аўтамат,
Ён з лёгкім сэрцам стрэліў у двух рабят.
І ў гэты міг маленькая дзяўчынка,
Падрэзаная, як націнка,
Зірнула на яго з дакорам
І крыкнула:
«Страляць у нас, дзядзя, сорам!..»
Не ведаем мы, якім шляхам,
Але адбыўся тут з фашыстам цуд:
Ён нібы ў чалавека абярнуўся адным махам
(За што яго пазней судзіў ваенны суд).
Ужо не цешыўся чужым ён горам,
Пачаў ужо людзей ён шкадаваць,
І часта можна была ад яго чуваць:
«Страляць у нявінных сорам!..»

Цяпер ужо ніхто не скажа, безумоўна,
Што гітлераўцы — зверы пагалоўна.

*Алма-Арасан, 3 мая 1943 г.*

**Янка МАЎР**

## Юбілейны дзед

Рэдактар выклікаў мяне і кажа:
— Вось што, таварыш Заяц: час ужо рыхтавацца да юбілейнага нумару. Трыццаць год. Дзве даты: 1917 і 1947. Разумееце?
— Разумею, — кажу я. — А ў якім разрэзе?
— Пакуль што супастаўце дзеда-селяніна 1917 года і дзеда-калгасніка 1947 года. Знайдзіце адпаведны тыпаж і фактуру і здыміце. Калі можаце зрабіць?
— Думаю, дні праз два будзе. Пад'еду ў бліжэйшую вёску і здыму.
— Глядзіце толькі, каб характэрныя былі.
— Хіба я не ведаю? — пакрыўдзіўся я.

На другі дзень я ўжо быў у вёсцы Глінішчы і распытваў, хто тут будзе самы стары дзед. Мяне завялі да васьмідзесяцігадовага Рыгора Лабаза, калгаснага пасечніка. Паглядзеў я на яго і адчуў, нібы ў мяне выраслі крылы, для 1947 лепшага і не знайсці! Нічога агульнага з 1917! Перш за ўсё – барады няма. Гэта ж знаходка: пасечнік – ды без барады! Па-другое, ён зусім не горбіцца, а стаіць проста, хоць бы што. Кашуля – каўбойка, запраўленая ў чорныя штаны на выпуск. Падпяразаны вузкім рэменем з нікелевай спражкай. Ды яшчэ з кішэні на грудзях вытыркаецца запісная кніжка. Праўда, у роце яго люлька ўсё ж такі была, але яна вытыркалася проста, а не загіналася ўніз, як у даўнейшых дзядоў.

– Вас, мусіць, цікавяць лічбы аб нашай пасецы? – сказаў ён, вымаючы сваю запісную кніжку.

– Так, вядома, – адказаў я. – Але спачатку я папрасіў бы дазволу зняць вас.

– Калі ласка, – сказаў ён і абапёрся аб вулей.

Я нават хваляваўся, калі здымаў гэтага дзеда на фоне пчалінага гарадка з прыгожымі домікамі-вуллямі ўздоўж вуліцы. Чатырнаццаць разоў шчоўкаў я, каб застрахаваць сябе ад няўдачы. А ў вачах маіх стаяў фотаздымак з надпісам: «Дзед-пасечнік».

Галоўнае было зроблена, засталося толькі зняць дзеда дарэвалюцыйнага. Але ў Глінішчах для яго не знайшлося б фону: усе будынкі новыя, зусім не тыповыя для 1917 года. Я сеў на свой веласіпед і паехаў у вёску Печышча.

Мне там пашанцавала трапіць на сход і ўбачыць разам усіх мужчын і дзядоў. Але патрэбнага мне дзеда я ўсё ж такі не знайшоў. Адзін здаўся мне ззаду нібы падыходзячым, але спераду аказалася зусім не тое: абстрыжаная барада, мужны твар, ды яшчэ партызанскі медаль на грудзях. Які гэта дарэвалюцыйны дзед?!

Паехаў у Іржышча. Бачу – стаіць адна старая хата з маленькім акенцам і саламянай страхой, а на прызбе сядзіць сапраўдны дзед: з белай барадой, у зрэбных портках і шэрай світцы, і нават босы.

Падыхожу да яго.

– Добры дзень, дзядуля! Адпачываеце на сонейку?

– Адпачываю, сынок, адпачываю, – заківаў ён галавой. – Час ужо адпачыць.

– Даўно ў гэтай хаце жывяце?

– Увесь свой век пражыў.

– І ўсё было таксама, як цяпер?

– Таксама, сынок, таксама. Толькі падпраўляў некалькі разоў.

Я ўздыхнуў лягчэй. Нарэшце, я знайшоў тое, што трэба!

– Дазвольце вас зняць.

– А навошта табе? – здзівіўся дзед.

– У газеце хачу змясціць: старога дзеда ля старой хаты.

– У газеце? Ну, што ж – давай. Можа, сыны мае пабачаць.

Ён устаў. Я азірнуўся навокал.

– Можа, у вас побач ёсць саха ці драўляная барана?

– Дзе ты бачыў? Даўно няма.

– А можа, у суседа знойдзецца?

– Што ты, што ты! – замахаў дзед рукамі. – Засмяюць, калі пачнеш пытацца.

Бачу, што з фактурай дрэнная справа, і зноў пытаюся:

– А можа, якія ламаныя колы захаваліся ці драўляная вось?

– Якія табе колы? – усміхнуўся дзед. – Увесь парк на калгасным двары, а калі куды ехаць – на машыну падсядзеш. Пачакай, я зараз...

І ён увайшоў у хату. Няўдача з фактурай засмуціла мяне. Але нічога не зробіш – трэба лавіць тое, што ёсць. Пачаў выбіраць пазіцыю, прыглядацца, бачу – правады ідуць у хату! Электрычнасць і радыё! Вось табе і дзевяцьсот сямнаццаты! Тым часам выйшаў дзед. Зірнуў я на яго і ледзь не самлеў: боты, чорны гарнітур, гальштук, прычасаныя валасы і барада.

– Дзядуля! – ускрыкнуў я. – Навошта вы так прыбраліся?

– А што ты хочаш? – здзівіўся ён. – Каб пудзілам ішоў у свет?

– Я хацеў, каб натуральна... – пачаў я, але дзед мяне перапыніў:

– А па-твойму, у такім выглядзе я ненатуральны, а?... Ты здзекавацца з мяне захацеў, а? Ты хочаш, каб сын мой, палкоўнік, чырванеў за мяне?.. Ён даўно цягне мяне да сябе, ды толькі я не хачу пакідаць сваёй роднай хаты... А ты хто такі?.. Пакажы дакумент!..

Далейшых слоў я не чуў, бо мой веласіпед імчаўся па дарозе ў Мачулішчы...

Пяць дзён я бадзяўся па вёсках, але не хацеў вяртацца, не выканаўшы задання. Нарэшце забраўся за дзвесце кіламетраў ад Мінска і знайшоў тое, што мне трэба было. І хата адпаведная, і дзед як мае быць. Праўда, належнай фактуры і тут не было, але затое дзед згадзіўся сясці перад апаратам лапці плесці.

Вярнуўся я хоць і са спазненнем, але з лёгкім сэрцам. Заданне было выканана. Добра выйшаў дзед 1947 года! Нядрэнны дзед 1917 года, ды толькі... за яго спінай у полі быў трактар, які псаваў мой патрэбны здымак.

*«Вожык», 1947 г., №19.*






## Наеўся!

Вінцэся запрасілі ў госці. Ён згадзіўся зазірнуць на каву да Яніка, свайго былога аднагрупніка. Сядзяць яны на кухні, вядуць размовы. Жонка да кавы наліла яшчэ міску наварыстага баршчу, зрабіла салату з селядцом...

Як і належыць у такіх выпадках, была яшчэ і чарка гарэлкі. Раптоўна Вінцэсь спахапіўся і кажа:

– Трэба тэрмінова жонцы патэлефанаваць, каб вячэру мне не гатавала. Я ўжо ў гасцях наеўся!

## Сустрэча з паэтам

У гарадской бібліятэцы выступае паэт. Творца стомлена чытае свае новыя вершы.

Жанчына, якая прысутнічае ў чытальнай зале, абураная, шэпча суседцы на вуха:

– Бач, якім цьмяным голасам чытае свае творы. Ледзь чуваць, быццам тры дні нічога не еў. А вось учора, дарэчы, у чарзе ў нашай сталоўцы вельмі бадзёра і гучна заляцаўся да дзяўчат!

**Ганна АТРОШЧАНКА,**
*г. Гомель.*






Віктар КОХАН x 2.




Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.

# Балюча — затое гаюча, або Кароткі курс народнай медыцыны

*Гісторыйка*

Аднойчы вясковец Мікола знянацку захварэў.

– Вой, таблетак ніякіх няма, і аптэка не працуе. Чым жа мне цябе лячыць? – занепакоілася жонка Марыля.

– Я неяк чытаў у газеце, што добра дапамагае народная медыцына. Ёю яшчэ нашы прадзеды карысталіся, – зазначыў хворы.

– Што, напрыклад? – пацікавілася кабета.

– Пярцоўка ці алкагольны кактэйль, – адказаў той.

Праз хвіліну жанчына ўжо трымала чарку пярцоўкі. Міколу адразу такая ўвага спадабалася, бо дагэтуль на гарэлку дома было табу. А тут жонка сама ў ложак прынесла.

На жаль, хвароба ў мужчыны хутка прайшла, і курс народнай медыцыны скончыўся. Таму ён пайшоў на хітрыкі: раніцай выйшаў на двор лёгка апрануты, а вярнуўшыся, нібыта закашляў і зноў злёг у ложак. Жонка павойкала ды ўзялася лячыць мужа правераным спосабам.

Міколу хацелася так пахварэць даўжэй, але каб Марыля не западозрыла яго сімуляцыю, быў вымушаны хутка падняцца на ногі. Праз тыдзень гісторыя паўтарылася. І зноў былі алкагольныя кактэйлі, пярцоўка, націранне спіны спіртам.

– Якая добрая народная медыцына, – хваліў Мікола сваё лекаванне, – хутка выздараўліваю. Не тое, што таблеткі. Хімія адна!

Праз тыдзень мужчына прастыў яшчэ раз.

– Можа, пярцовачкі? – запытаўся ён у жонкі.

– Здымай кашулю ды кладзіся ў ложак, – пачуў загад жонкі. – Зараз тваю хваробу выганяць будзем.

Мікола з задавальненнем выканаў жончыну просьбу. Але замест звыклай пярцоўкі ўбачыў у руках каханай лазовы дубец.

– А гэта яшчэ навошта? – здзіўлена запытаўся ён.

– Таксама добры сродак ад прастуды. У газетах пішуць, што дапамагае за адну хвіліну, нават лепш, чым пярцоўка, – з усмешкай адказала кабета. – Ім яшчэ нашы прабабкі карысталіся.

– Падман, – занепакоіўся Мікола. – Ніякія лекі пакуль за хвіліну на ногі не ставілі. Патрэбен курс лячэння.

– Значыцца, пройдзем яго, – супакоіла жонка і перайшла да працэдуры.

– Балюча, – завойкаў Мікола пасля першага дубца.

– Пацярпі, любы, – папрасіла лагодна жонка. – Балюча, затое гаюча.

Не мінула і хвіліны, як Мікола амаль пракрычаў, што ўжо стаў здаровым.

– І сапраўды, лепш за пярцоўку дапамагае, – зазначыў уголас ён.

Больш Мікола стараўся не хварэць. Бо ў народнай медыцыне лекі разнастайныя. І не заўсёды прыходзяцца даспадобы.

**Андрэй СІДАРЭЙКА,**
*Рэчыцкі раён,*
*агр. Каравацічы.*



Алег ГУЦОЛ.




Аляксандр ПЯТРОЎ.

# Майстар ашуканства

Выйшла на пенсію ўрэшце Фядора.
Эх, вось цяпер бы – у санаторый!
Год эканоміла, грошы збірала,
Калі па шчырасці – недаядала.
План яе збіў тэлефонны званок:
Хлопец лагодна, як родны сынок,
Прапанаваў шклопакеты праверыць:
«Гэта бясплатна! Мне можаце верыць!»
Потым прыйшоў, іх агледзеў з увагай.
Ветліва так да кабеты, з павагай
Загаварыў, што, маўляў, ёсць прыкметы
Браку сур'ёзнага ў тых шклопакетах.
Трэба іх хуценька рамантаваць:
Тут замяніць, тут – адрэгуляваць...
Вось каштарыс падбівае ён лоўка –
Сума набралася, як на пуцёўку.
Мерзнуць Фядора не хоча зімою.
«Трэба плаціць! Што ж паробіш з бядою!
Ну, а пуцёўка... Яна пачакае», –
Так разважала кабета з адчаем.
«Майстар» затое не ведае гора:
Адпачываць ён паехаў на мора...
Каб не дазволіць сябе ашукаць,
Гэткіх «майстроў» – у дом не пускаць!

**Зоя ШОХЦІНА,**
*г. Мінск.*



Алег КАРПОВІЧ.




Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ.




Абутак з Італіі — гэта вядомы брэнд. Цікава, а што малююць пра абутак італьянскія карыкатурысты? Прапануем вам некалькі такіх карыкатур.




Паола ДАЛЬПОНТЭ.



Агім СУЛАЖ.



Алессандра ГАТТО.



Анджэла КАМПАНЬЕ.



Марка дэ АНГЕЛІС.

## Італьянскія анекдоты

Ноч. Спальня. Жонка, засынаючы, салодка ўсміхаецца: «Цікава, ці памятае мой муж, што заўтра пятнаццацігоддзе нашага вяселля? Безумоўна, гэта так! І падарунак ужо набыў...»

Муж, засынаючы, з сумам думае: «Калі б я задушыў яе пятнаццаць гадоў таму, то заўтра мяне б ужо выпусцілі...»

* * *

Карабінер пытаецца ў вадзіцеля:

– Як адбылася аварыя?

– Мая цешча патрабавала, каб я павярнуў направа, а жонка – налева. Я стараўся задаволіць абедзвюх, бо страшэнна не люблю сварак у сям'і.

* * *

Жонка будзіць сярод ночы мужа:

– Піпін, мне здаецца, недзе пішчыць мыш... Я так баюся!

– Ну і што ты ад мяне хочаш? Каб я пайшоў і ўрэзаў ёй?

* * *

Піпін расказвае сябрам пра ўчарашнюю сварку з жонкай.

– І за кім жа было апошняе слова? – пытаюцца тыя.

– За мной! – з гонарам гаворыць Піпін. – Я сказаў: «Добра, купляй»...

* * *

Муж і жонка выходзяць з царквы.

– Я выпадкова заўважыла, што ты кінуў у кварту для ахвяраванняў пяць тысяч лір.

– Ну, і што?

– Цікава было б ведаць, за які такі грэх ты даў гэткую суму?

* * *

Муж адарваўся ад газеты:

– Ты штосьці сказала, Сандра?

– Так, Джузэпэ, але гэта было ўчора.

* * *

– Ты ведаеш, дарагі, нам трэба быць асцярожнымі, калі мы размаўляем у прысутнасці нашага сына Луіджы. Ён сёе-тое пачынае ўжо разумець і задае казытлівыя пытанні.

– Якія?

– Напрыклад, чаму я выйшла за цябе замуж.

* * *

Каля магілы стаіць мужчына і плача:

– Навошта ты так рана пайшоў з жыцця?

Яго пытаюць:

– Гэта ваш родзіч?

– Не, гэта першы муж маёй жонкі.

* * *

– Ты пазычыў Джузэпэ тры тысячы, а ён уцёк з тваёй жонкай!

– Я не такі дурны, каб пазычаць грошы проста так.

* * *

На вуліцы сварацца двое мужчын:

– Ты асёл!

– Ад асла чую!

Прахожы спыняецца:

– Навошта сварыцца, калі вы сваякі?

* * *

Калі б табе прапанавалі выбіраць паміж тваёй жонкай і кіназоркай, то каго з акцёрак ты б выбраў?

* * *

– Доктар, мы з жонкай вельмі запальчывыя людзі, дня не праходзіць, каб не пасварыліся. Што мне рабіць?

– Думаю, уся справа ў лішняй энергіі. Раю вам, сіньёр, хадзіць мінімум па дзесяць кіламетраў у дзень. Пазваніце мне праз два тыдні і паведаміце, як ідуць справы.

Праз паўмесяца мужчына патэлефанаваў доктару і радасна пракрычаў:

– Дзякуй, доктар, у мяне ўсё проста цудоўна!

– А з жонкай больш не сварыцеся?

– Безумоўна, не! Я ж цяпер знаходжуся за сто пяцьдзясят кіламетраў ад дому!

* * *

Малады італьянец выйшаў з царквы пасля вянчання, убачыў цыганку і працягнуў ёй для варажбы руку. Тая толькі глянула і прабурчала:

– Усё, што я табе магу сказаць, – позна...

**На беларускую мову пераклаў Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*




## Завушніцы для Бярозкі

*Казка*

Пасля доўгай марознай зімы нарэшце прыйшла Вясна. У квяцістай сукенцы і беласнежным вяночку яна абыходзіла свае ўладанні. І ўсё, да чаго дакраналася, адразу ажывала. Пабачыўшы Вясну, адразу ж пачыналі весела спяваць птушачкі, цёплы ветрык руплівей гойдаў галінкі дрэў, а сонейка мацней грэла зямлю. І толькі Бярозка стаяла панура апусціўшы галаву.

– Чаму ты такая сумная? – пацікавіліся пралесачкі. – Калі пакрыўдзіў хто, дык раскажы. Можа, мы дапаможам табе?

– Ніхто мяне не крыўдзіў, – уздыхнула Бярозка.

– Дык у чым справа? – нічога не разумеючы, заціўкалі сінічкі.

– Мы слухаем, – зачырыкалі верабейкі.

– Не ведаю, як вам патлумачыць, – яшчэ ніжэй апусціла галаву Бярозка, – настрою няма зусім, самотна неяк на душы.

Якраз у гэты момант побач з імі з'явілася Вясна:

– І хто гэта ў нас такі панury?

– Бярозка наша беластволая, – хорам адказалі птушкі.

– Прызнавайся, прыгажуня, што здарылася? – пацікавілася Вясна.

– Якая ж я прыгажуня? – заплакала Бярозка. – Вунь у вішні, чарэшні, слівы ёсць кветачкі. У грушы і яблыні таксама. А хутка і бэз расцвіце, чаромха і каліна заквітнеюць. А ў мяне толькі лісцікі...

– І з-за такой дробязі ў цябе дрэнны настрой? – здзівілася Вясна. – Хочаш, я падару табе завушнічкі? Такое ўпрыгожванне толькі ў цябе будзе.

– Мне было б вельмі прыемна і радасна, – павесялела Бярозка. – Дзякуй вялікі за клопат!

Вясна выканала сваё абяцанне. З таго часу Бярозка стала яшчэ прыгажэйшай. Калі ўсе дрэвы з прыходам цяпла пачынаюць квітнець, наша прыгажуня чапляе свае завушніцы і распускае вецце-косы. Малыя дзяўчаткі вельмі любяць прымяраць на сабе такія ўпрыгожванні. А вы так робіце?

**Лёля БАГДАНОВІЧ,**
*г. Барысаў.*






## Хачу есці

– Мамачка, я есці хачу! – енчыць малы Захар.
– Пачакай, сонейка, зараз ёгурт дам, – супакойвае яго мама.
– Не хачу ёгурт, – працівіцца малы. – Я есці хачу!

## Рыбалоў

Міша злавіў муху і хваліцца бабулі:
– Цяпер я сапраўдны рыбалоў мух!

## Маленькая і вялікі

Рыгор пытаецца ў Ірышкі:
– Колькі табе годзікаў?
– Мне чатыры, я яшчэ маленькая.
Хлопчык з гонарам адказвае:
– А мне тры, і я вялікі!

## Кацянятка

Бацькі ўзялі на выхаванне кацянятка. Малая Светачка не можа супакоіцца:
– Мамачка, дык што, кошка, у якой мы забралі кацянятка, цяпер стала маці-адзіночкай?

## Лепей ва ўніверсітэт

Пяцігадовы Паша пытаецца ў бацькі:
– Тата, а колькі трэба вучыцца ў школе?
– Адзінаццаць гадоў.
– А ва ўніверсітэце?
– Пяць.
– О! Я тады лепей туды пайду!

## Зайчык

Малы Віталік сядзіць у адным пакоі са старэйшай сястрой, якая размаўляе па тэлефоне з хлопцам.
– Зайчык мой, кахаю цябе! – кажа дзяўчына.
Хлопчык падскоквае з месца і крычыць на ўсю кватэру:
– Мам! А чаму ў Волі ёсць зайчык, а мне хамяка нельга завесці?

## Грошы ёсць

Трохгадовы Рома знайшоў у бабулінай шафе пачак грошай і радасна абвясціў усяму сямейству:
– Нікому не трэба працаваць – грошы ёсць!

## Божыя кароўкі

Данік гуляў з маці па лесе, убачыў з тры дзясяткі божых каровак і сур’ёзна заўважыў:
– Ого, ды тут цэлы божы кароўнік!

## На каго падобная

Маленькая Ева гуляе з маці, раптам сустракаюць знаёмую. Тая пачынае разважаць, на каго падобная дзяўчынка: на маці або на тату? Паміж жанчынамі адбываецца дыскусія, яны не прыходзяць да агульнага меркавання. Нарэшце знаёмая пытаецца ў Евы:
– А ты на каго больш падобная?
Ева сябе аглядае (яна ў паласатай футболцы), крыху думае і адказвае:
– На зебру!

## «Ляжачы паліцэйскі»

Толік (7 гадоў) едзе з бацькам на машыне і заўважае наперадзе «ляжачага паліцэйскага»:
– Тата, асцярожна, труп міліцыянта на дарозе!

## Суп

Бабуля пытаецца ў унучкі:
– Леначка, суп будзеш?
– Так, – згаджаецца малая. – Толькі налі мне аднаго мяса!

**Даслала Ганна СІНІЦА,**
*г. Барысаў.*



# Вожык — лекар




**Па гарызанталі:**

**2.** Веснавы ядомы грыб. **6.** Скрыпучая вярба ... вякі жыве *(прыказка)*. **7.** «Шанцуе ж парсюку: увесь ... лычом у зямлю — і ніводнага фінгала» *(жарт Я. Мальца)*. **8.** ..., як дурная жонка: ці з розуму звядзе, ці сілу скрадзе *(прыказка)*. **9.** Час — лепшы ..., але дрэнны касметолаг *(прыказка)*. **10.** ... папуасу сябра, таварыш і корм *(жарт)*. **13.** Не пахмурна, а ... . **15.** Каб не ..., не адзежка, была б грошай поўна дзежка *(прыказка)*. **17.** Укусі ката за хвост — пройдзе ... *(прыказка)*. **20.** Гультай. **22.** Весці пустыя размовы — разводзіць ... *(фразеалагізм)*. **23.** Закончаная частка спектакля. **24.** Умоўнае абазначэнне чагосьці ці кагосьці невядомага. **25.** Смейцеся на ... ! *(заклік)*.

**Па вертыкалі:**

**1.**«Вось бы гэты язычок \\ У прыбіральню на ...» *(з байкі К. Крапівы «Язычок»)*. **2.** На ваўка ..., а авечак цягае Сава *(прыказка)*. **3.** Гучны, нястрымны, аж да слёз, смех. **4.** Род жаночай прычоскі. **5.** Як ёсць пачатак, будзе і ... *(прыказка)*. **11.** На ... барадаўка – і то прыбаўка *(прыказка)*. **12.** Час, пара касьбы. **14.** ... садзіцца – цельца маладзіцца *(жартоўная прыказка)*. **16.** «Тут завохкала сарока, \\ Тут завохкала жаўна: \\ – Вожык – лекар? Ой, ... » *(з верша В. Гардзея «Вожык-лекар»)*. **18.** Згуртаванне арганізмаў. **19.** Нуду лечыць ... *(прыказка)*. **21.** Папулярная святочная салата.

**Адказы:**

**Па гарызанталі: 2.** Смаржок. **6.** Два. **7.** Час. **8.** Самагонка. **9.** Доктар. **10.** Папуас. **13.** Ясна. **15.** Ежка. **17.** Злосць. **20.** Лайдак. **22.** Антымоніі. **23.** Акт. **24.** Ікс. **25.** Здароўе.

**Па вертыкалі: 1.** Цвічок. **2.** Слава. **3.** Рогат. **4.** Кукла. **5.** Канчатак. **11.** Палец. **12.** Пакос. **14.** Скулачка. **16.** Марока. **18.** Цэноз. **19.** Гумар. **21.** Аліўе.

**Склаў Лявон Целеш.**
*г. Дзяржынск.*



Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.

## Падвойны крызіс

Бабе дзед на імяніны
Абяцаў купіць машыну.
Тая ў захапленні:
Добрае рашэнне!
Выбраўся на рынак дзед
І набыў... веласіпед.
З форсам падкаціў да ганка,
Хваліцца беспрастанку:
– Паглядзі, што за машына:
Які руль, якія шыны!
Сядзеш, ціснеш на педаль –
І гані на магістраль!
– Эх, стары ты дурачына,
Ну, хіба ж гэта машына?
Вунь Міхась – той не балбес,
Мае новы «Мерсэдэс».
Я ад зайздрасці аж плачу:
Мае ён яшчэ і дачу.
– Крызіс, жонка, вінаваты,
Грошай шмат забраў, пракляты.
Ты сварыцца не спяшайся,
Паспрабуй ды пакатайся.
На педаль даві нагой –
Развітаешся з вагой.
Болей наракаць не стала,
Ровар той упадабала.
Ездзіла кудысь штодня,
Бы работы ёй няма.
І сказала неяк дзеду:
– Да сяброўкі я паеду.
Паглядзі за гаспадаркай,
Не заглядвай толькі ў чарку!
Муж упраўна завіхаўся –
Без удзячнасці застаўся:
Жонка не вярнулася
Ды не прыгарнулася.
З'ехала да Міхася –
Вось гісторыя уся!
Хай бы ровар той прапаў –
Лепш яго б і не купляў.
Крызіс мае дзед двайны,
Хоць няма яго віны.
Была баба з норавам:
Ні жонкі, ні ровара!

**Генадзь СУКАЧОЎ,**
*Рэчыцкі раён,*
*в. Якімаўка.*




## Казка і рэальнасць

Мужчына, жонка якога паехала ў адпачынак на курорт, выбраўся вечарам на шпацыр. І калі ён прысеў на лаўку, пачуў ціхі лагодны голас:

– Прашу, забяры мяне адсюль! Я зачараваная каралеўна, і толькі ты можаш дапамагчы мне зноў стаць чалавекам.

Мужчына схіліўся і ўбачыў маленькую зялёную жабку. Ён злітаваўся і забраў яе дамоў, выкупаў у ванне, а пасля паклаў у мяккі ложак. І тады жабка ператварылася ў прыгожую і прывабную дзяўчыну.

Але раптоўна з адпачынку вярнулася жонка. І паколькі ёй у дзяцінстве не расказвалі казак, яна не паверыла ў такую незвычайную гісторыю...

## Уладальнік акварыума

Звоніць тэлефон. Трубку здымае бацька трох дачок. Не паспеў ён адкрыць рот, як голас у трубцы ласкава спытаў:

– Гэта ты, мая рыбка?

– Не! – адказаў бацька. – Гэта ўладальнік акварыума.

## Альтэрнатыва мужу

– Чаму ты не выходзіш замуж?

– А навошта? У мяне ёсць сабака, які бурчыць, папугай, які заўсёды крычыць, і кот, які недзе швэндаецца па начах.

## Калі не я, дык хто?

– Ты мяне кахаеш?

– Канешне!

– А ці аддаў бы за мяне жыццё?

– А хто ж тады будзе цябе кахаць?

## Дурань

– Калі жаніўся на табе, я быў поўным дурнем.

– А я была так закахана ў цябе, што нават не заўважыла гэтага.

**Леў КАЗЛОЎ,**
*г. Мінск.*

16+

«Вожык» – грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс
№ 5 (1556), 2018 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*

Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

Намеснік галоўнага рэдактара
Аляксандр Пятровіч КАРШАКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: Сяргей ВОЛКАЎ, Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, Мікола ГІРГЕЛЬ, Юлія ЗАРЭЦКАЯ, Міхась КАВАЛЁЎ, Казімір КАМЕЙША, Алег КАРПОВІЧ, Міхась ПАЗНЯКОЎ, Уладзімір САЛАМАХА, Васіль ТКАЧОЎ, Мікола ШАБОВІЧ.

Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел),* Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў),* Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры).*

Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zviazda.minsk.by.

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39.
E-mail: a-vojik@yandex.by;
Тэлефоны: галоўнага рэдактара – 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага – 284-84-52, бухгалтэрыі – 287-18-81, факс – 284-84-61.

Падпісныя індэксы:
74844 – індывідуальны, 01380 – індывідуальны льготны,
748442 – ведамасны, 01381 – ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Камп'ютарная вёрстка: Дар'я КАМЕЙША
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ

Падпісана да друку 07.05.2018. Фармат 60x84 $^{1}/_{8}$. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,15. Тыраж 782 экз. Заказ .

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.





Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.


Мабільны
клік!
фотапрыкол


ООО
840312
БАТОН
400г
«МОЛОДОСТЬ С ОТРУБЯМИ»
1 шт
РФ,
9р 90к
4 600756 100090


ГАСТРОНОМ
МАЛЫШ
ВОДКА ПИВО ПРОДУКТЫ ВОДКА ПИВО


ПР 71
Дата изготовления:
ТОРТ
ВИННИ-ПУХ
ОСТ 10-060.95 Пищевая ценность на 100г продукта: белки-4,6г, жиры-13,4г, углеводы-56,5г. Хранить при t 4± 2°С.
Срок годности: 36 часов с момента изготовления.
Энергетическая ценность 100г: 355 ккал.
Состав: мука, сахар, мед, раст. сливки 30%, сл. масло, чернослив, разрыхлитель, сах. пудра, какао, яйцо, молоко, ванилин.
Сертификат соответствия РОСС RV 0001.01 ОП 11


СКИДКИ
ТРУСЫ - СТРИНГИ
ЗА 1кг
680 00


ЕРМАК
стерилизованный
восстановленный


АДЖИКА ИЗ МИЧУРИНСКА
ХРЕНОВАЯ ЗАКУСКА
ЗЛАТОДАР
500 г
4 820030 692015


РАЗВИТИЕ РЕБЕНКА
4-5 лет
ПРО ПИСИ
НАРИСУЙ И ОБВЕДИ
РОСМЭН

# Вожыкаўскі плакат



Аляксандр ШМІДТ.

**На радасць і сабе, і блізкім**
**Аформіць не забудзь падпіску!**



